ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №99 (4456) СУБОТА, 10 снежня 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

## Мы шчыра ўдзячны педагогам, якія застануцца са сваёй газетай і ў надыходзячым годзе — будзем разам руліцца аб паляпшэнні настаўніцкага жыцця, аб вырашэнні надзённых праблем адукацыі.

## Разумеем і тых, хто ахвяраваў коштам падпіскі на "Настаўніцкую газету" дзеля ста грамаў каўбасы — хоць мінутная, але ўсё ж радасць...

## А тым, хто хацеў бы атрымліваць газету з 1 лютага, раім неадкладна ісці на пошту — падпіска прымаецца без абмежаванняў

ГАРАЧЫЯ ПІСЬМЫ

# ЧАГО ВАРТА ДЗЯРЖАВА, ЯКАЯ ДАВЯЛА НАСТАЎНІКАЎ ДА ЖАБРАЦКАГА ІСНАВАННЯ?

Так, я патрыёт Радзімы — незалежнай і суверэннай Рэспублікі Беларусь. Так, мне неабыякавы лёс як сённяшні, так і заўтрашні. І таму, бачачы, як недарэчна і бяздумна штосьці робіцца ў краіне, як да канца не прадумваюцца рашэнні і не мяняецца ў лепшы бок жыццё — міжволі робіцца балюча і крыўдна за свой народ, якому ў каторы раз даводзіцца цярпець, прыніжацца, весці, шчыра кажучы, жабрацкае існаванне.

І сёння гэтыя нататкі не выпадковыя. Жыццё прымусіла ўзяцца за пяро, каб выказацца, можа быць тым самым яшчэ раз звярнуць увагу на нашы праблемы, каму народ даверыўся і ад каго, адпаведна, у першую чаргу залежыць і будучыня нашай дзяржавы, і наша жыццё, і дабрабыт нашых дзяцей. А тут яшчэ з'явіўся ў "Настаўніцкай газеце" за 26 лістапада г.г. адказ Міністэрства працы на запыт дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь А.Трусава аб невыкананні артыкула 34 Закона аб адукацыі, які, скажу шчыра, яшчэ мацней падштурхнуў мяне да абнародавання сваіх думак. Бо, прачытаўшы падобны дакумент, падпісаны міністрам працы А.В.Сасновым, у чалавека, крыху аддаленага ад адукацыі, узнікае (з поўнай падставай) уяўленне, што жывецца педработнікам цудоўна, што зарплата іх павышаецца ледзь не кожны месяц, што з 1 лістапада гэтага года не жыццё будзе ў іх, а маліна.

Таму каб сапраўды такая думка не з'явілася ў людзей, трэба пра настаўнікаў яшчэ раз сказаць праўду. І чым раней, тым лепш. Менавіта ж настаўнікі ў нашым грамадстве выконваюць высакародную місію — вучаць і выхоўваюць юнае пакаленне, нашу, як гаворыцца, змену. А што маюць за сваю працу? Мізэрныя грошы, якіх ледзь хапае толькі звесці канцы з канцамі, пракарміцца так-сяк, не кажучы ўжо аб куплі якіх-небудзь рэчаў... І ці не прападзе ў іх жаданне, пры такім стаўленні з боку дзяржавы, працаваць з поўнай аддачай і з ранейшай адказнасцю? Пакуль яшчэ настаўнікі ў сваёй асноўнай масе трымаюцца, з разуменнем адносяцца да цяжкасцяў і з пачуццём годнасці нясуць сваю няпростую ношу. Але гэта пакуль. Заўтра, не выключана, нехта знойдзе сабе месца ў камерцыйных структурах, няхай і далёкіх ад адукацыі, хтосьці ператворыцца ў "мяшэчнікаў", а хтосьці зоймецца яшчэ нечым...

Зрэшты, адток са школ высокакваліфікаваных кадраў пачаўся ўжо. Ідуць туды, дзе плацяць за працу добра, дзе лічацца з работнікам і цэняць кваліфікацыю і майстэрства. Я ведаю многіх вельмі разумных і вопытных выкладчыкаў, якія спяшаюцца па выхадных днях у так званыя камерцыйныя паездкі па блізкім і далёкім замежжы. Са слязамі на вачах расказваюць, у якое зневажальнае становішча пастаўлены людзі, якія маюць за плячыма па адным-два дыпломы аб вышэйшай адукацыі. Ужо не пра дзяцей, якіх навучаюць, даводзіцца ім думаць, а пра тое, як зарабіць дадатковую тысячу "зайчыкаў" для сям'і. Інакш проста не выжыць.

А вось яшчэ да ўсяго, як гром з яснага неба, звалілася на галовы настаўнікаў паведамленне ў друку, што з 1 студзеня наступнага года ўсе расходы па ўтрыманні жылля і за камунальныя паслугі будуць поўнасцю кампенсавацца самімі жыхарамі.

Я, напрыклад, пакуль "урубіцца" не магу, якім чынам з месячнай зарплаты педагога ў 100—200 тысяч рублёў можна будзе адшпільваць патрэбную суму за жыллё? На субсідыі спадзявацца? Мы гэта таксама ўжо прахадзілі, толькі ў выглядзе датацый, кампенсацый і г.д. Ці намнога выплаты выратавалі наша становішча? І чаму ў гэтым жыцці чалавек, і ў прыватнасці настаўнік, не можа разлічваць хоць неяк на сваю заработную плату? Ні пракарміцца, ні апрануцца, ні за паслугі разлічыцца.

Дакуль жа так будзе працягвацца? Калі меркаваць па прыведзеным вышэй адказе Міністэрства працы, ніякіх светлых перспектыў не прадбачыцца. У дакуменце сказана адназначна: выканаць артыкул 34 Закона аб адукацыі, дзе прадугледжваецца сярэдняя стаўка зарплаты педработнікаў не ніжэй за сярэднюю зарплату служачых у прамысловасці, — на практыцы не ўяўляецца магчымым. Вось так. Ні больш, ні менш. Тады, можа быць, і дзяцей не трэба вучыць, альбо вучыць напалову, як плацяць за работу. Няхай растуць невукамі, калі дзяржава не ў стане паклапаціцца як трэба аб настаўніцкай інтэлігенцыі. Жыць тады будзем у краіне дурняў, і дурнямі звацца.

Я разумею, не адным настаўнікам сёння дрэнна. Але ж не павінна такога быць! Трэба, каб і слесар, і токар, і цясляр, механізатар і бухгалтар, пастух і культасветработнік, доктар і дворнік зараблялі дастатковую для прыстойнага жыцця суму. Зараблялі сваімі рукамі, галавой, добрасумленнымі адносінамі да справы. Педагог тым больш павінен быць на вышыні. Яго праца — пачатак усіх нашых пачаткаў. І не разумець гэтага — значыць не клапаціцца аб будучым нашай дзяржавы. Можа быць гучна сказана, але гэта так.

Мажліва, я не маю рацыі ў чымсьці ў сваіх высновах і меркаваннях, чагосьці не разумею са сваёй "званіцы"? Але цвёрда перакананы: нялёгкая настаўніцкая праца павінна ўрэшце рэшт стаць прэстыжнай і высокааплачваемай у дзяржаве. Гэта для ўсіх нас важна!

**Васіль ШАМШОРЫК,**
**памочнік выхавацеля Пінскай школы-інтэрната для глухіх дзяцей, член Саюза журналістаў Беларусі.**

У "НАСТАЎНІЦКАЙ ГАЗЕЦЕ" ў №№ 95—96 ад 26.11.94г. апублікаваны адказ Міністэрства працы на запыт дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Алега Трусава пад назвай "Выканаць на практыцы гэта патрабаванне не прадстаўляецца магчымым...".

Пазнаёміўшыся з гэтым адказам, члены нашай прафсаюзнай арганізацыі лічаць, што патрабаванне аб выкананні пункта 7 артыкула 34 Закона аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь павінна быць выканана, і як мага хутчэй, бо сёння стаўкі настаўніка складаюць 10—15 даляраў ЗША. Настаўнік і яго сям'я знаходзяцца на грані выжывання, таму што і ў гады "развітога сацыялізму" яго зарплата была нізкай і ён не стварыў сабе запасаў адзення і іншых тавараў. Дзяржава паставіла сёння настаўніка ў такія сацыяльныя ўмовы, калі замест таго, каб павышаць свой культурна-адукацыйны ўзровень, настаўніку ўсё часцей даводзіцца задумвацца пра хлеб надзённы. Бедны настаўнік не можа быць прыкладам для пераймання падрастаючаму маладому пакаленню!

Мала таго, што зарплата жабрацкая, дык яна яшчэ і несвоечасова выплачваецца. Так, зарплату і даплату за стаж за жнівень — кастрычнік нашы настаўнікі атрымалі толькі ў пачатку лістапада, калі яна з-за інфляцыі абясцэнілася больш чым у два разы. Настаўнікі лічаць, што несвоечасова выплачаная зарплата павінна абавязкова індэксавацца. Калі ў плане павышэння жыццёвага ўзроўню настаўніка не будзе нічога зроблена ў бліжэйшы час, то настаўнікам нічога не застанецца, як пачаць забастовачны рух за сваё выжыванне і дастойнае існаванне.

**Уладзімір ГАЛЕЦКІ,**
**старшыня прафкама Колкаўскай сярэдняй школы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці.**

ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ! Педкалектыў сярэдняй школы № 37 Гомеля з абурэннем прачытаў у "Настаўніцкай газеце" ад 26 лістапада адказ міністра працы "Выканаць на практыцы гэта патрабаванне не прадстаўляецца магчымым..."

У гэтым адказе ў кожным слове —чыноўніцка-бюракратычная пагарда да настаўніка; яго патрэб. І гэта піша былы выкладчык ВНУ, якога жыхары нашага раёна вылучылі 5 гадоў таму і выбралі ў Вярхоўны Савет абараняць нашы інтарэсы! Гэта яшчэ раз пацвярджае тое, што "слугі народа" на наступны ж дзень забываюць свае абяцанні.

Настаўнікі ж даведзены да галечы, іх дзеці літаральна галадаюць, забылі пра фрукты і вітаміны. Аб якім касцюме і знешнім выглядзе настаўніка можна гаварыць, калі не хапае на яду. Настаўнікі ўжо не плоцяць за кватэру, вымушаны стаяць на барахолках, каб неяк выжыць. У настаўніцкай адны толькі размовы аб тым, што і дзе купілі больш таннае з прадуктаў, што елі самі і дзеці.

Ці можна пражыць на зарплату настаўніка, якая складае, паводле даных прафсаюзаў, 36,8 працэнта ад зарплаты служачых у прамысловасці, калі ў кожнага дзеці ў сям'і? Настаўнік не можа сёння пракарміць нават сябе, не кажучы пра дзяцей! Да чаго ж нас давялі нашы разумныя кіраўнікі, якія крывадушна разважаюць аб цэнах у нас і ў Расіі, але "забываюць" пры гэтым параўнаць зарплату. Там настаўнік атрымлівае 100 даляраў, а ў нас нават пасля павелічэння ў лістападзе — настаўнік вышэйшай катэгорыі — атрымае толькі ў снежні — 15 даляраў, калі, зразумела, даляр да таго часу не вырасце! Аб гэтым чамусьці маўчыць А.Сасноў, але пералічвае "меры па павышэнні зарплаты ў 1993-94 гадах". Ды за каго ж нас лічаць гэтыя чыноўнікі? Настаўнік жа апынуўся на ніжняй прыступцы сацыяльнай лесвіцы! Засталося толькі пасля ўрокаў сесці на вуліцы з працягнутай рукой, а А.Сасноў раіць у "Радыёфакце" знайсці яшчэ адну работу!

Годзе з нас здзекавацца, настаў час усім педагогам заявіць аб сабе ва ўвесь голас!

Мы заклікаем усе педкалектывы і прафсаюзы настаўнікаў пачаць калектыўныя дзеянні ў абарону законных інтарэсаў. Не выконваецца ж Закон аб адукацыі, а чыноўнікі нам вешаюць лапшу на вушы.

Як сказала адна настаўніца на раённай прафсаюзнай канферэнцыі, нам ужо няма за што купіць стрыжань, каб правяраць вучнёўскія сшыткі. А нашым панам пляваць на становішча настаўнікаў. Давайце ж самі сябе абаронім.

Прафкам сярэдняй школы №37 па даручэнні ўсіх настаўнікаў школы звяртаецца да Беларускага Рэспубліканскага камітэта нашага прафсаюза з патрабаваннем неадкладна пачаць барацьбу законнымі метадамі за нашы правы. Так жыць больш нельга! Урад проста плюе на нас. Наша сіла — у адзінстве.

Па даручэнні педкалектыву — прафкам сярэдняй школы №37 Гомеля.

**(У нашым калектыве каля 100 работнікаў).**

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ НАШАЙ ДЗЯРЖАВЫ ПАД ПАГРОЗАЙ!

## ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ

Апошнім часам, небеспадстаўна разлічваючы на падтрымку найвышэйшых асобаў улады, у нашай краіне актывізавалі сваю дзейнасць антыбеларускія сілы, якія маюць за мэту спыніць працэс беларускага нацыянальнага адраджэння і станаўлення незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь. Дзеля гэтага ў сродках масавай інфармацыі — у газетах, на радыё і тэлебачанні — ставяцца пад сумненне праўдзівыя факты беларускай гісторыі, ідзе байкот выканання Закона аб мовах, адкрыта гучаць заклікі да замены дзяржаўнай нацыянальнай сімволікі, да вяртання Беларусі ў абдымкі імперыі.

Запаволілася работа па аднаўленню гістарычных беларускіх найменняў вуліц, вёсак і гарадоў у нашай краіне, навучальныя ўстановы, калгасы і саўгасы па-ранейшаму носяць імёны партыйных дзеячаў і дзяржаўных кіраўнікоў былога Саюза, а таксама людзей, якія засведчылі сябе ў гісторыі як ворагі незалежнай беларускай дзяржавы. Рускамоўныя шыльды па-ранейшаму застаюцца на сценах большасці адміністрацыйных будынкаў, новастворанных устаноў і камерцыйных структур, у значнай ступені рускамоўным застаўся гарадскі і міжгародні транспарт. Шэраг газет і часопісаў на нашай мове, сістэма беларускага кнігавыдання пакідаюцца сёння на волю стыхіі дзікага рынку. Тармозіцца падрыхтоўка да пераводу вышэйшых навучальных устаноў на беларускамоўнае навучанне, і беларус па-ранейшаму не мае магчымасці атрымаць адукацыю ў ВНУ на роднай мове. Ідзе адкрыты наступ на беларускую мову ў школах, сярэдніх спецыяльных навучальных установах. Прылюдна, у стылі мінулых часоў, нацыянальна свядомыя грамадзяне Беларусі абвінавачваюцца ў нацыяналізме, распальванні нацыянальнай варожасці, разбурэнні стабільнасці і спакою ў грамадстве — толькі за тое, што беларус пачаў гаварыць на мове сваёй дзяржавы, на мове сваёй зямлі, мове сваіх продкаў. І усё гэта адбываецца ў краіне, дзе прадстаўнікам іншых нацыянальнасцяў, таксама як і іншым мовам, ніхто і нішто не пагражае. Беларуская зямля, на жаль, становіцца прытулкам усяму антыбеларускаму, карумпаванаму, крымінагеннаму. Гэта не можа не трывожыць усіх сумленных грамадзян Беларусі, бо пад пагрозай незалежнасць нашай дзяржавы.

Рэспубліканская Рада ТБМ заклікае ўсіх свядомых грамадзян Беларусі, патрыётаў Бацькаўшчыны, стварыць супрацьстаянне гэтай змрочнай антыбеларускай імперскай плыні, на падставе Канстытуцыі і законаў не даць магчымасці задушыць імкненне беларусаў стаць сапраўднымі гаспадарамі на сваёй зямлі.

Набліжаюцца выбары ў Вярхоўную Раду краіны. Гэта выключна адказныя выбары. У нас ёсць магчымасць выбраць у вышэйшы орган сваёй улады людзей, адданых Беларусі, людзей, заклапочаных яе лёсам, самаахвярных і сумленных. Толькі ўсведамляючы свой нацыянальны абавязак і вялікую адказнасць перад дзецьмі і ўнукамі, перад будучыняй Радзімы, мы можам разлічваць на годнае месца ў супольнасці еўрапейскіх народаў.

**Жыве Беларусь!**
**18 лістапада 1994 г.**

# НГ-іНФАРМ

## ВЕСТКІ

### ПЕРШАДРУКАР ПАЎСТАНЕ У МІНСКУ

З мэтай ушанавання памяці беларускага першадрукара, вучонага, асветніка-гуманіста і пісьменніка эпохі Адраджэння Францішка Скарыны Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб узвядзенні яму помніка ў Мінску.

### ДАШКОЛЬНІКІ — НА ЎСЕ РУКІ

На факультэце дашкольнага выхавання Беларускага педуніверсітэта студэнты вучацца па некалькіх накірунках: выхавальнік—выкладчык замежнай мовы, выхавальнік—практычны псіхолаг, выхавальнік—музычны кіраўнік і інш. Будучыя спецыялісты будуць працаваць у дзіцячых садзіках.

### "ПЕРШЫ КРОК" У ГРОДНІ

Дзіцячы садок №11 Гродні абраны Фондам "Сораса—Беларусь" месцам правядзення эксперыменту па праграме "Першы крок".

### ПРЭЗЕНТАЦЫЯ МАЛАДЗЁЖНЫХ АБМЕНАЎ

Амерыканскі Савет па супрацоўніцтве ў галіне адукацыі і вывучэння моў правёў у Мінску прэзентацыю праграмы маладзёжных абменаў на 1995-96 навучальны год.

**Міхась АНІСЕНКА.**

### ЁСЦЬ КРАЎЦЫ, БУДУЦЬ І ЗАКРОЙШЧЫКІ

У мазырскім ПТВ №228 завяршылася будаўніцтва швейнай майстэрні, вялікага памяшкання з сучасным абсталяваннем. Заключаны дамовы з камбінатамі на пастаўку тканін, фурнітуры. Уся гэтая работа была выклікана ўвядзеннем з новага навучальнага года новай прафесіі — закройшчыка. На гэту спецыяльнасць будуць прымаць падлеткаў з адзінаццацікласнай адукацыяй.

Да нядаўняга часу ў вучылішчы навучэнцы асвойвалі майстэрства краўцоў.

### ЧЭМПІЁНЫ НЕ ТОЛЬКІ НА КУХНІ

Першае месца занялі навучэнцы гомельскага ВПВ №17 кулінарыі ў абласных спаборніцтвах па рухомых гульнях "Стартуюць усе". Каманду прадстаўлялі дваццаць першакурснікаў з групы №6, якія займаюцца ў ВПВ па спецыяльнасці повар.

На спаборніцтвах ім прыйшлося выканаць цэлы комплекс спартыўных мерапрыемстваў, які складаўся з эстафеты, гімнастыкі, конкурсу прафесійнага майстэрства. А папярэднічала гэтаму спаборніцтва па агульнафізічнай падрыхтоўцы навучэнцаў, куды ўвайшлі ўсе віды лёгкай атлетыкі.

У снежні ў Гомелі пройдуць рэспубліканскія спаборніцтвы, да якіх у вучылішчы пачалася актыўная падрыхтоўка.

**Ала КЛЮЙКО.**

# ШТО, ДЗЕ, КАЛІ

### У Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых кадраў і спецыялістаў адукацыі:

**5—17 снежня** факультэт кіраўнікоў і спецыялістаў дзіцячых дашкольных устаноў праводзіць аўтарскія курсы арганізатара ўпраўлення адукацыі Барысаўскага гарвыканкама Л.С.Серабраковай "Змест і формы арганізацыйна-метадычнай работы на дыягнастычнай аснове".

У праграме навучання:

— дыягнастычны падыход у дзейнасці арганізатара аддзела адукацыі;

— змест і формы арганізацыйна-метадычнай работы;

— асноўныя напрамкі дзейнасці арганізатара (інспектара, метадыста) па забеспячэнні сістэмы бесперапыннага павышэння кваліфікацыі педагагічных кадраў у дзіцячым садзе, горадзе, раёне;

— мадэляванне аптымальных варыянтаў планавання работы з педагагічнымі кадрамі на дыягнастычнай аснове.

Слухачы вывучаць альтэрнатыўныя ідэі і накірункі выхавання і навучання. Практычныя заняткі арганізуюцца на базе лепшых дашкольных устаноў Барысава. Курсанты ўсіх катэгорый атрымаюць кваліфікаваныя кансультацыі па шырокім спектры сучаснага дашкольнага дзіцячага сада.

**5—24 снежня** факультэт кіраўнікоў і спецыялістаў дзіцячых дашкольных устаноў праводзіць курсы для работнікаў агульнаадукацыйных школ-інтэрнатаў. На курсах будуць разгледжаны пытанні адраджэння нацыянальнай культуры і менталітэту беларусаў. На сучасным узроўні выкладаюцца звесткі па псіхалогіі ўзаемаадносін у калектыве, псіхалогіі канфлікту, праводзіцца псіхалагічны трэнінг. Разглядаюцца прычыны і віды парушэнняў паводзін вучняў і даюцца псіхолага-педагагічныя рэкамендацыі па іх карэкцыі і прафілактыцы.

Вялікая ўвага надаецца арганізацыйным і фінансавым пытанням працы кіраўніка школы і нарматыўным дакументам.

**5—24 снежня** факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў школ праводзіць курсы для настаўнікаў беларускай і рускай моў дапаможных школ. На курсах выкладаюцца не толькі тэарэтычныя аспекты адраджэння беларускай культуры, мовы і суверэнітэту, але даюцца і практычныя рэкамендацыі і методыкі правядзення гэтай работы.

Слухачы атрымаюць інфармацыю па сенсорных, маторных, маўленчых, асобасных і іншых асаблівасцях дзяцей з недахопамі ў разумовым развіцці. Асаблівая ўвага надаецца парушэнням у дзяцей пісьмовай і вуснай мовы, авалоданню пісьмом.

Слухачы маюць магчымасць пазнаёміцца з работай вопытных педагогаў, разгледзець з педагогамі асобасныя падыходы да работы з вучнямі.

Для слухачоў курсаў праводзяцца кансультацыі па праграме кваліфікацыйнага экзамену. Пры наяўнасці накіравання атэстацыйнай камісіі ў слухачоў прымаецца экзамен на першую і вышэйшую катэгорыі.

**5—24 снежня** факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў школ праводзіць курсы загадчыкаў і метадыстаў спецыяльных дашкольных устаноў усіх тыпаў. На курсах даецца інфармацыя па асаблівасцях псіхаматорыкі, сенсорнай і іншых відах пазнавальнай дзейнасці, эмацыянальна-валявой сферы развіцця асобы. Кіраўнікі пазнаёмяцца з сучаснымі падыходамі да інтэграванага навучання і выхавання дзяцей з парушэннямі разумовага і фізічнага развіцця, з сучаснай нарматыўнай дакументацыяй па арганізацыі работы і фінансаванні дашкольных устаноў. Праводзяцца трэнінгавыя заняткі па псіхалогіі канфлікту.

Слухачам, якія жадаюць здаць на катэгорыю, даюцца кансультацыі і прымаецца экзамен.

**5—24 снежня** факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў школ праводзіць курсы настаўнікаў пачатковых класаў спецыяльных школ-інтэрнатаў для дзяцей з затрымкамі псіхічнага развіцця і цяжкімі парушэннямі маўлення. На курсах даецца інфармацыя па адраджэнні беларускай культуры і менталітэту. Разглядаюцца асноўныя палажэнні канцэпцыі і сучасны падыход да інтэграванага аказання дапамогі дзіцяці з адхіленнямі ў разумовым і фізічным развіцці; псіхафізіялагічныя і псіхалагічныя асаблівасці дзяцей з затрымкамі псіхічнага развіцця і парушэннямі маўлення; методыкі карэкцыі адхіленняў моўнага і псіхалагічнага развіцця дзіцяці.

Для слухачоў курсаў праводзяцца кансультацыі па праграме кваліфікацыйнага экзамену. Пры наяўнасці накіравання атэстацыйнай камісіі ў слухачоў прымаецца экзамен на першую або вышэйшую катэгорыю.

**12—24 снежня** факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў школ праводзіць аўтарскія курсы кандыдата псіхалагічных навук У.А.Янчука па праблеме "Сацыяльна-псіхалагічнае забеспячэнне навучальнага працэсу". На курсах прадугледжваецца азнаямленне з сучаснымі дасягненнямі сусветнай сацыяльна-псіхалагічнай навукі, вывучэнне сацыяльных паводзін асобы, узаемінаў, групавой дынамікі, канфлікту і г.д. Слухачы пазнаёмяцца з сучаснымі метадамі камп'ютэрнай дыягностыкі, метадамі групавога трэнінгу. У праграме курсаў прадугледжваюцца сустрэчы з вядомымі спецыялістамі па розных напрамках практычнай сацыяльнай псіхалогіі.

### РЭСПУБЛІКАНСКІ ІНСТЫТУТ ВЫШЭЙШАЙ ШКОЛЫ І ГУМАНІТАРНАЙ АДУКАЦЫІ

**арганізуе курсы павышэння кваліфікацыі для супрацоўнікаў ВНУ:**

**1—30.12** — правазнаўства;

для выкладчыкаў ССНУ, ПТВ, СШ:

**1—30.12** — асновы заканадаўства Рэспублікі Беларусь;

праводзіць

**13—16** снежня Рэспубліканскі семінар "Школа з паглыбленым вывучэннем выяўленчага мастацтва і архітэктуры: вопыт, праблемы, перспектывы развіцця";

**21** снежня семінар для выкладчыкаў гісторыі сярэдніх школ "Актуальныя праблемы гісторыі і культуры Беларусі".

**Віктар ІЎЧАНКАЎ,**
**вядучы эксперт упраўлення аналітычнай работы і перспектыўнага развіцця адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі.**

# ПАСТАНОВА

## Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны

Грунтуючыся на Канстытуцыі, на дзейным заканадаўстве аб мовах, аб культуры, аб адукацыі Рэспублікі Беларусь і выказваючы занепакоенасць тым, што дзяржаўная моўная палітыка ў Беларусі не ажыццяўляецца належным чынам, а апошнім часам нават інспіруецца пэўнымі сіламі супрацьдзеянне яе ажыццяўленню, Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

**ПАСТАНАЎЛЯЕ:**

1. Запатрабаваць ад усіх дзяржаўных структур і службовых асоб Рэспублікі Беларусь няўхільнага выканання палажэнняў Канстытуцыі краіны, у якіх замацаваны дзяржаўны статус беларускай мовы.

Асудзіць непатрыятычныя праявы нацыянальна-дзяржаўнага нігілізму і грэблівага стаўлення да мовы беларускага народа з боку асобных дзяржаўных служачых, пэўных грамадскіх аб'яднанняў альбо іншых структур.

2. Звярнуцца да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з грамадскай ініцыятывай зацвердзіць у Законе аб бюджэце на 1995 год і ў падаткавым заканадаўстве такія палажэнні, якія б гарантавалі паспяховае і поўнае ажыццяўленне Закона аб мовах, Закона аб культуры, Закона аб адукацыі і іншых нарматыўных актаў, якія рэгулююць моўна-культурныя дачыненні ў грамадстве.

Лічыць недапушчальным згортванне канкрэтных праграм дзяржаўнай падтрымкі беларускай культуры, кнігавыдання, перыядычнага друку і іншых сродкаў масавай інфармацыі, нацыянальнай сістэмы адукацыі. У адпаведнасці з Законам і неад'емным правам народа беларускае слова ў сацыяльна-грамадскім ужытку Бацькаўшчыны павінна мець сапраўды дзяржаўнае гучанне.

3. Усведамляючы асабліва важную ролю школы ў справе дзяржаўнага і моўна-культурнага адраджэння Беларусі, аказваць больш дзейсную падтрымку органам, установам і работнікам азначанай галіны, якія самаахвярнымі высілкамі ствараюць падмурак нацыянальнай сістэмы адукацыі, забяспечваюць навучальна-выхаваўчы працэс згодна з патрабаваннямі заканадаўства. Без нацыянальнага дашкольнага выхавання, без сапраўды беларускай сярэдняй і вышэйшай школы не мае будучыні беларуская дзяржава.

4. Падтрымаць зварот бацькоў, вучняў беларускіх школ і класаў да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб пераводзе Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта на беларускую мову з 1 верасня 1995 года. Менавіта з гэтага года вялікая колькасць дзяцей з пачатковай беларускай школы пачынае пераходзіць у пятыя класы агульнаадукацыйных навучальных устаноў, і ўзнікае вострая праблема недахопу выкладчыкаў, якія прафесійна валодаюць беларускай мовай.

5. Ухваліць ініцыятыву шырокай грамадскасці Беларусі аб неадкладным стварэнні другога, цалкам беларускамоўнага нацыянальнага канала Беларускага тэлебачання і звярнуцца да Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь з прапановай вырашыць гэта пытанне з улікам інтарэсаў незалежнай краіны, якая не можа развіваць сваю дзяржаўнасць і нацыянальную культуру без дастаткова развітой інфармацыйнай прасторы.

18 лістапада 1994 г.

